© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

8 кастрычніка 1997 года
СЕРАДА
№ 56
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 750 руб.
Цана ў розніцу — 1000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

## ЧАС МЯСЦОВЫ

### ЗЕРНИСТАЯ ИКРА... ИЗ КУРОЧЕК

***БАРАНОВИЧИ. Два года назад, когда Барановичскую птицефабрику возглавил новый директор Евгений Михайлович Сасим, дела здесь были плачевные. Только на складе скопилось 5,5 миллиона штук нереализованных яиц.***

О долгах и говорить не было чего. Казалось, выхода из экономическо-финансового тупика нет. Но новый руководитель пришел на бедствующее предприятие не с пустыми руками. Он принес... идеи. Зная, что в условиях хаотического, но уже складывающегося рынка сельхозпродукции узкая специализация - а здесь битая птица и яйцо, - является тормозом развития многосторонних связей с торговлей, он поставил цель организовать выпуск сопутствующих продуктов.

Прежде всего освоили птицеводы выпуск зернистой икры из рыбных продуктов и яичной массы. Затем фабрика выдала отличный майонез, освободив покупателей от зависимости дальних производителей этой приправы, монопольно диктовавших рыночные цены.

Производство икры устроили в цехе яичного порошка. И те же рабочие, выполнив заказ по первому продукту, в любой час смены переходят к выпуску второго.

Еще на фабрике изготавливают хлеб, макароны, пельмени. Это позволяет максимально использовать основное сырье - куриное мясо, жиры, яичную массу.

Второе направление развития предприятия - организация фирменной торговли. Это позволяет экономить на торговых издержках и иметь наличку. Сейчас фабрика имеет 17 фирменных магазинов в Барановичах, Ивацевичах, Лунинце, Ляховичах, Ганцевичах, Синявке, других городах. Конкурентов нет, ибо куры, яйцо Барановичской птицефабрики дешевле, чем в госторговле. Да и свежее. Потому, что снабжение продуктами идет только по заявкам точек. А там продавцы прозапас мяса не держат.

Третье направление - укрупнение фабрики за счет присоединения к ней других птицепредприятий, более слабых. Но это уже дело недалекого будущего.

● *ФОТАСЮЖЭТ*

## КАЗА - ЯК СРОДАК ВЫЖЫВАННЯ



***ІВАЦЭВІЧЫ. Пільна сочыць за сваёй карміліцай бабуля: добра паесць каза - будзе ёй чым прыправіць нішчымную пенсіянерскую страву.***

На жаль, гэты малюнак нетыповы цяпер для гарадскога пейзажу: цяжка гараджаніну ўтрымліваць жывёліну, цяжка нарыхтоўваць кармы на зіму. Таму, напэўна, і раённы аддзел статыстыкі не вядзе падліку колькасці ўтрымання хатняй жывёлы ў райцэнтры.

А вось лічбы колькасці хатняй жывёлы ў сельскага насельніцтва раёна ў аддзеле статыстыкі ведаюць. Па стану на 1 студзеня 1997 года вяскоўцы мелі ў сваіх падсобных гаспадарках 11171 галаву буйной рагатай жывёлы (у тым ліку - 9847 кароў), 17114 свіней, 273 казы, 1168 авечак, 519 коней, 361 труса. Многа гэта ці мала? Мяркуйце самі: на пачатак года ў раёне пражывала 67,8 тысячы насельніцтва... Прыкладна - па адной жывёліне на двух чалавекаў. Добра, калі гэта — карова ці каза. А калі - трус?

***Фота А. ГАНЧУКА.***

### БУДЗЕМ З ЦУКРАМ. АЛЕ НЕ ТАННЫМ

***ІВАЦЭВІЧЫ. Буракапрыёмны пункт пачаў прыёмку салодкіх карэнняў ад гаспадарак раёна.***

Работа вядзецца зладжана і арганізавана, прастою тэхнікі не назіраецца. Мяркуецца, што сёлета будзе нарыхтавана 27000 тон буракоў (у мінулым годзе гэта лічба была роўнай 24000 тонаў). За кожную тону салодкіх карэнняў буракапрыёмны пункт выплачвае гаспадаркам па 50 даляраў.

Дарэчы, цяпер цукар на рынку каштуе 21 тысячу за кілаграм. Відавочна, танней ужо ён каштаваць не будзе.

### ЛЕНІН НЕ ДАЕ СПАКОЮ

***ІВАЦЭВІЧЫ. Тутэйшых камуністаў моцна непакоіць «вечна жывы» Ільіч.***

Чарговы пленум райкама Партыі камуністаў Беларускай ад імя і па даручэнню ўсіх членаў партыі прыняў гістарычны дакумент - рэзалюцыю ў абарону Маўзалея У. І. Леніна. Верныя ленінцы супраць закрыцця магільнага склепа і перазахавання цела правадыра. Яны хочуць, каб «вечна жывы» Ільіч паранейшаму ляжаў пад шклом.

Калісьці, калі збіраліся Ленінград перайменаваць у Санкт-Пецярбург, мясцовыя ветэраны партыі таксама не знаходзілі сабе месца: як жа так, не спытаўшыся іх, задумалі вярнуць даўняе імя калысцы рэвалюцыі. Паляцела ў Расію петыцыя, поўная справядлівага бальшавіцкага гневу. Цяпер мы ведаем, што з гэтага атрымалася: Ленінград стаў Санкт-Пецярбургам. Расія - чужая, незалежная дзяржава і яе мала турбуе, чаго хочуць камуністы Івацэвічаў ці Гвінеі-Бісау.

### ПЛОТ НА ПУСТЫМ МЕСЦЫ

***БАРАНАВІЧЫ. У нетрах гарадскіх улад калісьці нарадзілася ідэя прывесці ў парадак парк імя 30-годдзя ВЛКСМ, які людзі называюць маладым паркам, паколькі ёсць яшчэ стары, у 2-х кіламетрах ад гэтага, безыменны і закінуты.***

Задумана - зроблена. Высеклі «лішнія» дрэвы. Тыя, што засталіся «у жывых», абрэзалі пад тэлеграфны слуп. Драхлы, хоць з прэтэнзіяй на арыгінальнасць плот рашылі замяніць новым. На сённяшні дзень амаль палова яго заменена. З'явіліся металічныя парныя сталёвыя трубы з шарамі-галоўкамі амаль трохметровай вышыні, паміж імі - краты. Секцыі абапіраюцца на жалезабетонны фундамент. Сіла, моц, прыгажосць. Не парк будзе, а непрыступная крэпасць. Гавораць не ў адзін мільярд рублёў абыйдзецца гэтае ўнікальнае, але зусім не патрэбнае і несвоечасовае збудаванне. Ды і на вока бачны вялізны кошт новай агароджы. І на разбіранне старой, вываз яе на смеццевую звалку (многія купілі слупкі за бесцань для сваіх патрэб) немалыя грошыкі ўбухалі.

А што абгароджваць? Пяць-шэсць дзіцячых атракцыёнаў, недаступных малышам з-за неймаверных цэн і таму вечна пустых? 10-15 лавак, на якіх адпачываюць пенсіянеры ў пагодлівыя гадзіны, а вечарам - выпівакі, хуліганы і прастытуткі? Фактычна пустое месца будзе агароджана залатым па кошту, вялізным да недарэчнасці плотам.

Няма куды траціць бюджэтныя грошы?

☎ *АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?*

*- «Газета для вас»? Памятаеце, вы ў адным з нумароў газеты пісалі пра тое, што вялікая група праваслаўных вернікаў г. Івацэвічы звярнулася са скаргай у Мінскую епархію, у якой яны выказвалі незадавальненне марудным тэмпамі будаўніцтва Івацэвіцкай царквы і патрабавалі адхіліць ад пасады благачыннага айца Рыгора. Вы абяцалі паведаміць чытачам газеты аб выніках праверкі гэтай скаргі.*

*Чаму слова не трымаеце?*

*А. САДОЎСКІ, жыхар г. Івацэвічы.*

## УСЕ МЫ ХОДЗІМ ПАД БОГАМ...

Сапраўды, паважаныя чытачы, мы крыху спазніліся з паведамленнем, але на тое ёсць пэўныя прычыны. У Мінскую епархію пісьмо вернікаў паступіла 5 жніўня г. г. і на яго праверку і адказ вернікам трэба быў час. І мы, як і аўтары скаргі, цярпліва чакалі рэакцыі калі не самога **Мітрапаліта Філарэта**, то яго паўнамоцнага прадстаўніка.

Між тым, рэдакцыю «Газеты для вас» наведаў благачынны івацэвіцкай акругі **айцец Рыгор** і меў доўгую гутарку з рэдактарам газеты, якая з яго дазволу запісана на дыктафон. Перш за ўсё, айцец Рыгор выказаў абурэнне тым фактам, што газета паведаміла сваім чытачам аб скарзе вернікаў у Мінскую епархію. Па-другое, айцец Рыгор выказаў непавагу да нашай газеты і жаданне расказаць пра тое, з якімі цяжкасцямі будуецца царква і колькі сродкаў на яе ўжо зрасходавана. На заўвагу, што няма рацыі, не лагічна размаўляць з тымі, каго не паважаеш, айцец Рыгор не адрэагаваў.

Не будзем стамляць чытачоў лічбамі, якія айцец Рыгор прыводзіў. Паведамім толькі адну: паводле слоў благачыннага за 5 гадоў на будаўніцтва храма ў Івацэвічах зрасходавана прыкладна 150-160 тысяч долараў. Дакладнай лічбы, як мы зразумелі, ні айцец Рыгор, ні якаянебудзь праверка (прыедзь яна ў Івацэвічы!) не назаве, бо дакладнага бухгалтарскага ўліку гэтыя гады ніхто не вёў. Благачынны Рыгор Піліпчук з'яўляецца на гэтым будаўніцтве і прарабам, і майстрам, і забеспячэнцам , і бухгалтарам, і касірам!

Па-трэцяе, айцец Рыгор (прынамсі, у нас склалася такое ўражанне) ужо быў азнаёмлены з тэкстам скаргі ў Мінскую епархію і ведаў, хто падпісваў яе. І ён заявіў, што ніхто па гэтай скарзе ў Івацэвічы не прыедзе, і ніхто яе разбіраць не будзе. Чаму? Таму, што, як ён растлумачыў, у епархіі ведаюць, як цяжка будаваць храм і як цяжка благачыннаму знаходзіць, выпрошваць, выбіваць на гэта грошы...

Прызнацца, у той момант мы не паверылі гэтай заяве. Як жа - скарга не другарадная, а вернікаў, людзей, якія свята вераць у чысціню помыслаў і спраў духоўных айцоў царквы. Мы спадзяваліся, што, прынамсі, нехта з Мінскай епархіі з вернікамі пагутарыць. І ўсё ж мы памыліліся. Як і вернікі, чакалі-чакалі праверкі скаргі, нейкага адказу ці размовы - не дачакаліся. Вось па гэтай прычыне і з сваім паведамленнем аб выніках гэтай "праверкі" спазніліся. Прабачце, паважаныя чытачы.

Што ж датычыць будаўніцтва царквы, то яно крыху рухаецца наперад. Вось і купал пачалі накрываць меднымі лістамі. А пра канфлікт айца Рыгора і групы вернікаў, пазіцыю вышэйшага духавенства што можна сказаць? Усе мы ходзім пад Богам, і, напэўна, не пазбегнем вышэйшага суда, які не адмовіцца ў адрозненне ад Мінскай епархіі рассудзіць усё па-справядлівасці...

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



СУДЬБА ЧЕЛОВЕЧЕСКАЯ

# Без вины виноватый?..

Чтобы мы ни говорили, а немцы исправнее платят компенсацию бывшим узникам фашистских концлагерей, чем мы зарплату. Марки, заработанные потом, слезами, кровью под плетью и дулом автомата, перед оскалом овчарок, полученные в старости, возвращают людей в те далекие, жестокие, пахнущие смертью времена. Может быть при достатке не всякий взял бы в руки эти деньги, напоминающие о страшном прошлом, но голод - не тетка. Пятьсот, семьсот немецких откупных за грехи предков все же какая, никакая поддержка. И бывшие пленные, узники лагерей, гнувшие спины на германских заводах и фабриках, полях и карьерах, двинулись за компенсацией, собирая необходимые для этого справки.

Сергей Иосифович Кабушко, 1929 года рождения, белорус, узнал, что соседка, «мобилизованная» оккупантами, работала на немецком кирпичном заводе в Кутовщине Барановичского района и недавно получила компенсацию. Марками.

- А я? - риторически обратился он к жене, Зинаиде Степановне. - Тоже был узником. Малолетним. Три года отпахал в фашистской Германии.

Путь-дорожку к дойчмаркам начал протаптывать с местного управления госбезопасности. Приняли его участливо. Выслушали внимательно. Проверили рассказ, насколько это было возможно. В Барановичских архивах не оказалось ни одного документа. В войну горели не только люди, но и архивы.

Посоветовали обратиться во все города, где он работал и учился в послевоенные годы. А поиск документов или следов пребывания в плену вести только через Брестское областное управление госбезопасности.

Из г. Феодосии ответили, что пока ничего обнаружить не удалось, но пообещали покопаться более глубоко. И посоветовали обратиться в Центральный военный архив. Другие - кто отмолчался, кто отписался. Брестское же КГБ прислало уведомление, от которого у Сергея Иосифовича зашлось сердце, ноги подогнулись. Прочитав, только и смог выговорить, протягивая жене письмо:

- Й-я, оказывается, предатель...

Зинаида Степановна впилась в листок: «...Сообщаем, что Вы были арестованы 22.07.49 года. Обвинялись в том, что добровольно поступили в немецкую школу летчиков, а затем выехали за границу. Находясь в фашистской армии, закончили школу связи и проходили службу на военных аэродромах Германии. 6 января 1950 г. приговором военного трибунала войск МВД Белорусского военного округа Вы были осуждены по ст. 63-1 УК БССР к 10 годам лишения свободы в Степном лагере станции Джезказган Карагандинской области. 27 июля 1954 года освобождены. (По амнистии - **прим. автора**). По вопросу реабилитации можете обратиться в прокуратуру Брестской области».

Письмо упало на стол. Старики смотрели на него, как на детонатор неразорвавшейся бомбы: предатель!

- Я прочитал - волосы поднялись, - говорит Кабушко. - Мы, четырнадцатилетние, играли на улице в «бекера». Подъезжает грузовик с тентом. Мы смотрим, что будет дальше. Из нее выскочили немцы с автоматами. Окружили нас. Затолкали в фургон. Отвезли на станцию. Там с детьми, парнями, женщинами погрузили в вагоны - «пульманы» и повезли. Оказались мы в лагере «Шенвальд». Каждый день приезжали бауэры (фермеры - **авт.**), выбирали, кто поздоровее, и увозили. Я попал в число таких. Меня поставили за плуг. Конь - тяжеловес. Ручки плуга - выше подбородка. Я вишу на плуге. То зарою лемех по колено, то - поверху. Бауэр утром предупредил:

- Карашо работаль - брот инд буттер. Плохо работаль - брот инд вассер.

Вечером подошел, проверил:

- Карашо! Брот инд буттер.

В конце недели распорядился:

- Брот, буттер инд флейш.

- Так с краюхи хлеба с мазком масла я дошел до мяса с мизинец, - продолжал свой рассказ Сергей Иосифович. - Три года поливал немецкую землю потом и слезами. Потом Победа. Бауэр сбежал. Мы, батраки, кто-куда. К своим, конечно, солдатам. Там через разведку пропустили. Выдали обмундирование, автоматы и отправили с эшелоном «контрибуционных» коров аж в Феодосию. Охранять и кормить. Месяц, наверное, добирались. Как уберегли скот? - особый рассказ. Ну... сдали черно-пестрых. Меня, семнадцатилетнего, в ремесленное направили. Потом домой попал, в родные Барановичи. На работу пошел. А тут повестка из военкомата - на действительную. В армию значит. Отвезли в Донбасс, город шахтерский - Брянку Кадневского района. В шахту, навалоотбойщиком. Уголь рубить. Мощность пласта - 60 сантиметров. Всю смену на коленях, на карачках. Техники безопасности никакой. После смены считаем, кто в живых остался, кого покалечило. Жили в общежитии. Питались за свои. Трудовые книжки - в кадрах. Вот такая армия! Через год, не выдержав ежедневного ожидания гибели, рванули по домам. Здесь и был накрыт за побег с шахты. После «собеседований», во дворе, на печально знаменитой Володарской стороне, нас, человек двести, построили и в рупор объявили: «Вы все изменники Родины! По десять лет». Так я попал в лагерь Степной...

- А потом?

- Отбыл пять лет. Амнистия. Вернулся в Барановичи. Здесь и доработал до пенсии.

Зинаида Степановна, слушая известную ей историю жизни мужа, изредка комментировала:

- Летчик! В четырнадцать лет.. Связист на военном аэродроме! Малолетний враг... Изменник Родины!

Сергей Иосифович кипятился:

- Если я предатель, чего тогда не судили? Если пишешь такое письмо, дай документы, подтверждающие, что был летчиком немецким, связистом на аэродроме. Дай! Покажи! Суди!

Я слушал и рассуждал: «В какие только личины не рядились немецкие прихвостни, чтобы шкуру сберечь! Таились десятки лет. Под семью замками прятали свое зловещее прошлое. А уж если хоть намеком что всплывало, быстро перекрашивались, глубже зарывались, заметая следы. А этот ( я внимательно вглядывался в глаза Сергея Иосифовича) наоборот, требует проверки, переворошить его немецкий период жизни. И уже не ради марок, а чтоб позор смыть со своих седых волос...

Как же все-таки родилось это письмо? Из каких источников черпали сведения областные работники КГБ? Однофамилец ли попался в списках, или клевета недоброжелателя сохранилась в архиве? Или?.. Но выстрел обвинения прозвучал.

Не «стреляй» так скоропалительно в пожилых людей, КГБ! Сначала проверь «мишень». Довольно крови, физических и душевных страданий. Твой карающий меч должен быть беспощаден, но справедлив.

***П. НАГНИБЕДА.***

● *ВАША ПІСЬМО*

# ПРА СТАРАСТУ, ЯГО «СТАТЬИ» І ВЯСКОВЫ ПАРАДАК...

***На мінулым тыдні ў пятніцу нам прывезлі дровы. Выгрузілі на падворак, праўда, некалькі пален упала за варотамі вуліцы. У суботу ці нядзелю планавалі іх прыбраць. Ды вось не паспелі дровы выгрузіць, як пад'язджае на «Запарожцы» мясцовы стараста Мікалай Езапчук (я і не ведаю, што існуе такая пасада, і хто яе займае) і адразу ж, не павітаўшыся, загадвае: «Немедленно убрать, если не уберете, будете платить штраф». І пачаў чытаць «статьи»: «Статья 143, 145, 150».***

Я нават не паспеў і рот раскрыць, каб нешта сказаць, так стараста хутка чытаў «статьи». Вычытаў і паехаў. Калі крыху я дайшоў да сябе ад такога інцыдэнту, адразу ж рассмяяўся. Успомніліся героі з «Пінскай шляхты» Дуніна-Марцінкевіча. Там адзін з герояў чытаў законы «По всемилостивейшему указу Петра 1 от 1859 года...» Таксама і тут. Я так і не зразумеў, артыкулы якога кодэкса чытаў стараста: крымінальнага, адміністрацыйнага ці гаспадарчага? Ці можа існуе якісьці «спецыяльны» кодэкс старасты? Зухавата прачытаў іх вясковы стараста! Мусіць, ні адзін следчы ці пракурор не прачытаў бы так «безупречно» «статьи», як гэта зрабіў ён!

Я так разумею, калі ўведзена такая пасада ў в. Стайкі - старасты-, то не толькі на падворках людзей ён павінен чытаць «статьи». Чаму не бачыць стараста і не прымяняе свае «статьи» да тых, хто вывозіць смецце за вёску на выган. Там жа горы галля, шкла, металалому. Каровы вясковыя ногі калечаць. Раней хоць піянеры збіралі металалом. Чаму тут парушальнікаў не аштрафаваць і не прымяніць законы?

Пазамінулай вясной паводкай залівала дамы 155, 157, 159 па вуліцы Цэнтральнай у Стайках. У доме 155 плавала мэбля. Дзе тут былі «статьи» старасты?

Да што звяртацца да мінулага. Возьмем дзень сённяшні. Прайдзіце вечарам па Стайках. Калі не зламаеце ногу ў цемнаце, то без штаноў абавязкова прыйдзеце, бо, як толькі крыху прыцямнее, ад сабак праходу няма. Ды і цямрэча, што і чорт ногу зломіць. Асвятлення па вёсцы зусім няма. Вось тут бы старасце неяк паспрыяць на карысць людзям, а не «угрожать», калі на падворку дровы.

Можа, я не так разумею гэту ролю? А вы як думаеце?

***А. ШЫЛА.***

● *ПРАВІНЦЫЯЛЬНЫЯ ГІСТОРЫІ*

# НАШ МЯСЦОВЫ ПОЛТЭРГЕЙСТ

***Ці верыце вы, паважаныя чытачы, у існаванне полтэргейста (іншымі словамі, барабашкі, нячысціка)? Таго полтэргейста, які прадметы ў кватэры перасоўвае, падпальвае, са сцен зрывае, а сам нябачным застаецца?***

Шмат на гэтую тэму пісалі вялікія і малыя газеты, шмат спрэчак сярод людзей нарадзілі, бо ў адных выпадках майстар перасоўвання, падпалу, зрывання прадметаў заставаўся неразгаданым, а ў іншых гэта, як потым высвятлялася, рабілі гарэзлівыя падлеткі ці асобы больш сур'ёзнага ўзросту, але, як гаворыцца, без цара ў галаве. Таму і цікавасць да тэмы полтэргейста ўпала.

Мы ў рэдакцыі «Газеты для вас» усё гэта ведаем і, тым не менш, вымушаны да гэтай тэмы звярнуцца. Справа ў тым, што цэлае лета і восень вакол нашай рэдакцыі адбываюцца таямнічыя рэчы: то нехта паштовую скрынку сарве і кіне непадалёку на зямлю, то замок спрабуе адарваць, то цэлае шоу з кветкамі ля ўваходных дзвярэй устрайвае.

О, пра гэтае шоу крыху падрабязней. Што б вы сказалі, паважаныя чытачы, калі б на двары свайго дома, непадалёку ад уваходных дзвярэй аднойчы ўбачылі зроблены з ляжалых драўляных палачак, збітых цвічком, невялічкі крыж, а пад ім у керамічнай шкляначцы — кветкі? Мы паціснулі плячыма і выкінулі ўсё на сметнік. Назаўтра крыж і кветкі сталі зноў. І так на працягу некалькіх тыдняў.

Ну, зусім не хочацца думаць, што рабіла гэта ўсё чалавечая рука. Застаецца думаць - полтэргейст, нячысцік, які пражывае недзе паблізу. Мо ў якой-небудзь канаўцы, якіх на нашай вуліцы Дзяржынскага ды на могілках, якія размешчаны побач, ды і ў іншых месцах Івацэвічаў хапае. Уяўляеце: сядзіць гэты нячысцік у канаўцы, з якой толькі чаравікі ды калені праходжых, ну, можа што і вышэй іх, відаць. Злуецца. І аж рукі ў яго дрыжаць, калі падумае, што на яго ніхто ўвагі не звяртае. Тады робіць ён гэтымі дрыжачымі рукамі вось такія маніпуляцыі: каго за спадніцу скубане, у каго з сумкі баначку кавы сцібрыць, а каму на дворы шматзначны крыж паставіць. Ці да тэлефона дабяжыць і ў рэдакцыю «Газеты для вас» пазвоніць, а калі мы адгукнемся - маўчыць і маўчыць, толькі ў трубку дыхае!

Мілы Полтэргейст Канаўка! Мы разумеем, што жыццё ў цябе не салодкае: трэба ж ад вачэй людскіх не толькі рукі дрыжачыя хаваць, але і нутро - ваяўнічае, да дробнага паскудства схільнае. Ды зноў жа - і кватэра твая, гэта значыць, канаўка, на добры лад не наладжана: брыдоты ўсялякай поўна і гніллю патыхае. Але ж і за гэту кватэру трэба штодзённа перад Галоўным Чортам біць сябе ў грудзі: маўляў, твой я, твой, і больш нічый! Таму - звані нам, звані, нячысны Полтэргейст Канаўка. Усё весялей жыць будзе!



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



ЗНАК БЯДЫ




**Такая тэма нашай гутаркі з нарколагам Івацэвіцкай цэнтральнай раённай бальніцы Р. Я. ПРАКОПЧЫКАМ.**

**- Рыгор Яўгенавіч, спярша скажыце, калі ласка, колькі слоў пра гісторыю гэтай страшнай хваробы?**

- У 1983 годзе ў Францыі ў лабараторыі Л. Мантальє быў адкрыты ВІЧ (вірус імунадэфіцыту чалавека). Тады ж гэтаму вірусу была дадзена назва «Чума XX стагоддзя». Напачатку ВІЧ-інфіцыраваныя і хворыя на СНІД (сіндром набытага імунадэфіцыту) рэгістраваліся ў ЗША, Заходняй Еўропе, Афрыцы. У нашай краіне ў тыя гады адзначаліся адзінкавыя выпадкі ВІЧ-інфіцыраваных, і то не ў нашых жыхароў, а прыехаўшых з-за мяжы.

**- Як жа распазнаць, што чалавек захварэў на СНІД?**

- Распазнаць можна, калі ведаеш стадыі развіцця ВІЧ-інфекцыі, якіх чатыры. Першыя дзве стадыі: інкубацыйная і латэнтная (скрытая, нябачная) працягласцю ад некалькі тыдняў і да дзесяці і больш гадоў. На працягу гэтых стадый у чалавека могуць адсутнічаць усялякія прыкметы захворвання. Але ў той жа час такі грамадзянін ужо інфіцыраваны вірусам і з'яўляецца крыніцай заражэння.

У трэцяй стадыі паяўляюцца прыкметы хваробы: павелічэнне лімфавузлоў, пахуданне, начное пацненне, расстройства стулу, зніжэнне працаздольнасці, стамлялнасць. У гэтай стадыі ўзнікаюць і розныя захворванні: пнеўманія, абсцэсы мозгу, пухліны, анемія, паражэнне што паражае гэтая хвароба, вылучаюць: пнеўмаСНІД, пухлінны СНІД, кішэчны СНІД, нейраСНІД.

**- Сапраўды, страшная хвароба. А як ад яе пазбавіцца?**

- Прэпаратаў, якія б маглі вылечыць ад гэтай хваробы, на жаль, няма. Ёсць некаторыя лякарствы, якія затрымліваюць развіццё віруса, але кошт іх вельмі вялікі.

**- Калі няма лякарстваў для лячэння СНІДа, тады, відаць, трэба ўсім дакладна ведаць, як засцерагчыся ад хваробы. Ці не так, Рыгор Яўгенавіч?**

- Канечне, так. Кожны грамадзянін павінен ведаць шляхі перадачы віруса, меры прафілактыкі для таго, каб пазбегнуць інфіцыравання. Першы шлях перадачы віруса - палавы. Другі - ад заражанай маці да дзіцяці пры родах. І трэці - вірус перадаецца ў выніку выкарыстання для ін'екцый нестэрыльных шпрыцоў і іншых інструментаў, забруджаных крывёй інфіцыраваных.

Тут жа зазначу, што вірус не перадаецца праз пацалунак і пры поціску рук.

**- Хто ж, на Ваш погляд, найперш можа заразіцца невылечным вірусам?**

- Гэта ўжо даказана на практыцы, што першымі падвяргаюць сябе небяспецы заражэння наркаманы, якія выкарыстоўваюць адзін і той жа шпрыц, не стэрылізуючы ў выпадках, калі доўгі час няма наркотыка. Калі ж ён паяўляецца, тады меры засцярогі адыходзяць на другі план, галоўнае - хутчэй укалоцца.

**- Рыгор Яўгенавіч, хацелася б даведацца, якая абстаноўка з захворваннем у нашай Беларусі?**

- Да пачатку 1996 года ў рэспубліцы было зарэгістравана каля ста ВІЧ-інфіцыраваных, дзесяць чалавек памерла ад СНІДу. Эпідэміялагічная сітуацыя па ВІЧ-інфекцыі да лета мінулага года хоць і была напружанай, але не выклікала надта многа клопатаў. Іменна летась у гарадах Светлагорску і Жлобіне было выяўлена каля 500 ВІЧ-інфіцыраваных, пераважная большасць якіх з'яўляюцца наркаманамі. Цяпер у Беларусі 1666 ВІЧ-інфіцыраваных. Гэта дадзеныя Рэспубліканскага цэнтра СНІД. Па колькасці захварэўшых на першым месцы горад Светлагорск. Тут ужо 1119 хворых на СНІД. 157 хворых у нашай сталіцы.

**- Рыгор Яўгенавіч, ці абмінула чума XX стагоддзя наш раён?**

- На жаль, не абмінула. Дайшла чума і да нас. У раёне ўжо ёсць адзін чалавек, які заражаны невылечным вірусам. Калі ёсць адзін, то як кажуць, павінен быць і другі. Што ж, трэба прымаць усе меры засцярогі, каб пазбегнуць страшэннай хваробы.

І напрыканцы мне хочацца звярнуцца да бацькоў: вы несяце самую галоўную адказнасць у сваім жыцці - адказнасць за выхаванне дзяцей. Асаблівую ўвагу трэба ўдзяляць падлеткам. У кожнай сям'і павінна быць нецярпімасць да алкаголю, курэння, наркотыкаў. Мы ўсе павінны рэальна ўсвядоміць, што такія страшныя хваробы, як СНІД і наркаманія, ужо побач з намі. Таму кожны з нас павінен помніць аб гэтым.

**- Дзякуй, Рыгор Яўгенавіч, за шчырую размову.**

*Гутарыў С. КАЖАДУБ.*

---

э в своем огороде. Взрывоо-эедметы найдены на приуса-іастках и на полях деревень Трацевичи, Гирово, Колпесье, Карчево.

рагических последствий не очевидно, это благодаря ельной работе среди населеудников горрайвоенкомата, жданской обороны, местных власти. Каждый должен по-го наши поля, леса, огороды тами ожесточенных боев и они о усеяны неразорвавшимися сами.

*П. НАГНИБЕДА.*

---



г. Івацэвічы

# Для дома, для семьи, для души...

**Паважаныя чытачы! Ніхто, напэўна, не будзе пярэчыць сцвярджэнню, што дзеці — самае дарагое і любае, што ў нас ёсць. Дасылайце нам іх фотаздымкі і наогул сяменыя фота, віншуйце сваіх сыноў і дачок з днём нараджэння. Мы ўсё гэта надрукуем у нашай падборцы "Для дома, для сям'і, для душы".**

## ☺ *ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ*

☛ Чтобы на изделиях из тонких тканей не появились рыжие пятна, не забудьте спороть перед стиркой металлические пуговицы, пряжки и т. Д. С белья, которое вы собираетесь кипятить, надо спороть пластмассовые пуговицы - они могут деформироваться. С белых вещей не забудьте спороть цветные аппликации - они наверняка полиняют.

☛ Прорезиненные плащи хорошо стирать в растворе нашатырного спирта (1 столовая ложка на 2 л воды).

☛ В последнюю воду при полоскании изделий из тонкого натурального шелка добавьте кусочек сахара (на 1 л воды) и немного лимонной кислоты. Более плотный шелк можно полоскать в подсоленной воде.

☛ Вещи из шифона прополощите в холодной воде с добавлением 2 столовых ложек сахара.

## ☺ *ХОТИТЕ – ВЕРЬТЕ...*

### ГЛАВНОЕ - ШЕЮ ИМЕТЬ НА ПЛЕЧАХ

**Шея - один из органов, ярко свидетельствующих о чертах характера. Как лебедь щуке не товарищ, так и обладатели «лебединой» и «бычьей» вряд ли «одного поля ягоды».**

***1. Шея «лебединая», красиво изогнутая и длинная.***

Обладатель такой шеи - человек интеллигентный, очень чувствительный и впечатлительный. Часто такие люди имеют свои внутренний идеальный мир и ни за что не хотят мириться с недостатками мира окружающего. Они бессознательно вытягивают шею, чтобы быть выше всего суетного и мирского. Но такие люди только кажутся заносчивыми, на самом деле они очень лояльны и вежливы и сами часто становятся жертвой эгоистических поступков окружающих.

***2. Шея «бычий карок», короткая и массивная.***

Железная воля и здоровье, огромная жизненная энергия - основные характеристики таких людей. Чтобы добиться своего, они готовы на все. Если кто-то перейдет им дорогу, они готовы просто растерзать его или унизить. Временами такие люди даже опасны, ведь у них взрывной, импульсивный характер. К тому же они завистливы и властолюбивы, и это касается всех сфер их жизни. Даже любви.

***3. Шея короткая, полная.***

Эти люди в жизни руководствуются инстинктом и чувствами. Их привлекают сильные чувства и скандальные новости. Их достоинство - просто исключительная способность брать от жизни все счастье и удовольствие. Правда, они не всегда могут правильно воспользоваться плодами своих успехов, перебирая с удовольствиями. Они не идеал верности, но даже короткой связью могут осчастливить партнера.

***4. Шея короткая, тонкая.***

Некоторые считают, что люди с такой шеей очень нерешительны и слабохарактерны. Но такое впечатление производит именно шея, хрупкая и слабая. И это обманчивое мнение. Отличительная черта таких людей - создавать самому себе трудности. Может быть, причина этого в чрезмерной склонности к обдумыванию поступков и самокритике. В таких людях скрыта большая энергия. И многие «длинношеи» и «крепкошеи» уступают этим «хлюпикам» в жизни, если те вдруг решатся дать хоть маленький шанс своим чувствам и эмоциям.

***5. Сильная шея, с выступающим кадыком.***

Эти люди слишком зависимы от удач и успехов, которые много значат в их жизни. Именно поэтому обладатели «кадыка» часто не отваживаются на крепкую дружбу и длительную любовную связь, боясь, что эти обстоятельства могут помешать их карьере. Жизнь таких людей, несмотря на все успехи, трудно назвать счастливой, слишком большая плата стоит за всем.

***6. Шея с сильно выступающими жилами.***

Таким людям не хватает терпеливости. Они слишком требовательны к окружающим, они хотят получить сразу все навсегда или вообще ничего. В личной жизни они стремятся только к личному наслаждению и потому не дают ощущения полного счастья ни себе, ни своему партнеру. И к тому же хотят всегда быть в центре внимания, чтобы ими восхищались.

## ☺ *УЛЫБНИТЕСЬ*

Два путешественника видят в джунглях Амазонки, как местный житель ведет к пропасти женщину с камнем , привязанным к шее.

- Гм, - пробормотал один из них, - здесь процедура развода довольно упрощена.

* * *

Встречаются двое приятелей.

- Где был вчера?

- Ходили с женой в театр. Смотрели «Отелло».

- Ну и как?

- Да, знаешь, Дездемона так сопротивлялась в последнем акте, что три добровольца из зрителей вышли на сцену, чтобы подсобить Отелло.

* * *

- Вы проводите свой отпуск вместе с мужем или отдельно?

- Два года тому назад - отдельно.

- А потом?

- С тех пор он еще не вернулся.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



*ПА СЛЯДАХ НАШЫХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ*

# Каму верыць?

**У нашай газеце за 30 ліпеня гэтага года было надрукавана пісьмо Я. С. Голуб з райцэнтра пад назвай «За што грошы плаціць?» У ім узнімалася пытанне аплаты за прафілактычныя рамонты газавых апаратаў у непрыватызаванай кватэры.**

Адказ дырэктара раённага вытворчага ўпраўлення «Івацэвічрайгаз» **Р. Р. Бярынчыка**, які даслаў ён рэдакцыі, газета ўжо змяшчала. З яго вынікае, што за прафілактычны рамонт газавага абсталявання аплачвае спажывец газу - жылец.

Рэдакцыя атрымала адказ і ад дырэктара раённага вытворчага аб'яднання жыллёвай і камунальнай гаспадаркі **Л. М. Кавалевіча**. У ім робіцца спасылка на дзеючую пастанову Савета Міністраў ад 26 жніўня 1967 года за №807 «Аб мерах па паляпшэнню эксплуатацыі жыллёвага фонду і аб'ектаў камунальнай гаспадаркі». У ёй запісана: «Устанавіць, што прафілактычнае абслугоўванне газавай апаратуры і ўстройстваў у дзяржаўных жылых дамах і газавых сетак ажыццяўляецца сіламі адпаведных газазабяспечваючых арганізацый і за кошт іх сродкаў».

Далей у лісце чытаем наступнае. У дадзеным выпадку: дом №8 па вуліцы Шаўчэнкі г. Івацэвічы знаходзіцца на балансе Івацэвіцкага райвыканкама, і ўсе прафілактычныя рамонты газавых прыбораў і сетак павінен рабіць «Івацэвічрайгаз» за кошт уласных сродкаў.

Такім чынам, «Івацэвічрайгаз» на падставе сваіх інструкцый сцвярджае, што за прафілактычны рамонт газавых прыбораў у непрыватызаваных кватэрах павінен плаціць жылец, а камунальнікі, спасылаючыся таксама на дакумент (гэтая пастанова ўжо названа), паведамляюць, што тую ж работу газавікі павінны выконваць за свой кошт.

Каму ж з іх верыць: газавікам ці камунальнікам? Хто з іх мае рацыю? Гэтыя пытанні чакаюць свайго вырашэння.


САРДЭЧНА ВІНШУЕМ

З днём нараджэння Ніну Уладзіміраўну ЕЎТУХ з в. Гошчава.

Жадаем здароўя, удачы, цяпла,
Каб беды-нягоды згарэлі датла,
Каб жыць-нетужыць
Да 100 год давялося.
Хай збудзецца ўсё,
Што яшчэ не збылося.

З павагай — калектыў АВТС Івацэвіцкага раёна.


*СТАТИСТИКА И ЖИЗНЬ*

# ПАДЕНИЕ ПРОДОЛЖАЕТСЯ

Официальные статистические данные за первое полугодие текущего года рисуют картину бурного экономического роста.

Так, валовой внутренний продукт (в сопоставимых ценах) увеличился по сравнению с соответствующим периодом 1996 года на 11%, продукция промышленности выросла на 13,9%, товаров народного потребления произведено на 24,3% больше, а продукция сельского хозяйства увеличилась на 4,2%.

Данные официальной статистики могут смутить любого нормального человека, привыкшего делать выводы из реальной жизни, а не из программы «Резонанс».

Особенно интересные процессы происходят в сельском хозяйстве. Рост производства произошел при сокращении поголовья крупного рогатого скота на 2%, в том числе коров - на 4%, количество свиней уменьшилось на 5%. Государственные закупки скота и птицы также уменьшились на 4%.

Значительно отстают от общих «темпов роста» и грузоперевозки. Они увеличились лишь на 7%. Вопрос; где же осел остальной прирост?

При таком росте производства мы имеем почему-то отрицательное сальдо внешнеторгового оборота в размере 815 млн. долларов. Отрицательное сальдо товарооборота с Россией, представляющей основной рынок, на котором наши товары еще могут конкурировать, составляет 355,7 млн. долларов.

В общем объеме товарооборота удельный вес продовольственных товаров составил 61%. Это значит, что население тратит деньги в основном на еду.

Официальная статистика констатирует, что по сравнению с декабрем 1996 года цены на овощи выросли в 2,5 раза, сахар - в 2 раза, фрукты и маргарин - в 1,6 раза, масло животное и кондитерские изделия - в 1,5 раза, хлеб, рыбу, алкогольные напитки - на 43-44%, колбасу - на 39-41%, мясо, птицу, молочные продукты - на 31-35%.

Сравним цены на основные продукты питания на момент проведения так называемого референдума (ноябрь 1996 года) и в настоящее время (см. ТАБЛИЦУ).

**ТАБЛИЦА**

| | ноябрь 1996 г. | сентябрь 1997 г. |
|---|---|---|
| говядина | 28 тыс. | 63,8 тыс. |
| свинина | 40 тыс. | 98 тыс. |
| колбаса вареная 1 категории | 32 тыс. | 77 тыс. |
| колбаса "Сервелат" | 80 тыс. | 341 тыс. |
| мясо птицы | 43 тыс. | 68 тыс. |
| масло сливочное | 43 тыс. | 36,5 тыс. |
| сыр | 60 тыс. | 96 тыс. |
| яйцо | 13 тыс. | 20,6 тыс. |
| сахар | 9,8 тыс. | 22,2 тыс. |
| мука | 9 тыс. | 18,2 тыс. |
| водка | 24 тыс. | 56,7 тыс. |

Ярко отражает уровень жизни населения демографическая ситуация. За 1 полугодие численность населения республики продолжала снижаться и сократилась еще на 20 тысяч человек. Дело идет к тому, что число умерших (61,5 тыс.) скоро будет превышать число родившихся (37,7 тыс.) в два раза. Продолжается рост убийств, самоубийств, отравлений алкоголем.

И это не случайно. Все труднее становится жить старшему поколению. Средний размер назначенных месячных пенсий составил за полугодие 718,2 тыс. рублей, в то же время их реальный размер по сравнению с прошлым годом сократился на 4,4%. Средний размер назначенной месячной пенсии составляет лишь 36-38% к среднему размеру начисленной заработной платы и всего 56% - к величине минимального потребительского бюджета.

Средняя зарплата в Беларуси в долларовом исчислении составляет 68 долларов, в Росии - 158, в Литве - 184, в Латвии - 113 и даже на Украине- 78 долларов.

Напомним, еще в начале года средняя зарплата составляла 80 долларов. То же происходит и со средними размерами пенсий. К началу года этот показатель равнялся 31 доллару, к июню месяцу он уменьшился до 28 долларов.

Таким образом, уровень жизни нашего населения - один из самых низких среди республик бывшего СССР. Но, самое страшное, - падение уровня жизни продолжается.

*(Газета «ТОВАРИЩ»).*


ПРОИЗВОДСТВЕННО КОММЕРЧЕСКАЯ ФИРМА «БИСТ»
ОПТОВАЯ И РОЗНИЧНАЯ ТОРГОВЛЯ
- продуктами питания,
- спиртными напитками,
- товарами народного потребления,
- нефтепродуктами.

МЫ ЖДЁМ ВАС!

г. БАРАНОВИЧИ, ул. Брестская, 93.
Тел./факс: 5-40-14, 5-20-77

ОРГАНИЗАЦИЯ ЗАКУПАЕТ
ДУБ, СОСНУ, ЕЛЬ-КРУГЛЯК.
Форма оплаты любая.
Телефон в Барановичах 7-51-81, код 234.

ЛЕЧЕНИЕ и консультации
ПЬЯНСТВА, КУРЕНИЯ, ОЖИРЕНИЯ.
Запись ежедневно.
Город Барановичи, переулок Чистый, 34.Телефон 2-16-82
Лиц. выд. Слуцким горисполкомом 25.02.1993 г.


**ПАДПІСКА — 97**

**Падпісацца на "Газету для вас" на лістапад і снежань можна ў любым аддзяленні сувязі Івацэвіцкага, Баранавіцкага і Бярозаўскага раёнаў да 20 числа кожнага месяца.**
**"Газета для вас" выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.**
**Кошт падпіскі 6.000 рублёў на месяц.**
**Наш падпісны індэкс 63834**


**Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.**
**Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.**
**Падпісана да друку 6 кастрычніка ў 14.00.**

**Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"**
**Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.**

**НАШ АДР**


Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фак
могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры перадрукоўванні спасылк

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020